# Голас Радзімы




№ 26 (2064)
30 чэрвеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

Нават дваіх дзяцей вырасціць і выхаваць нялёгка ў наш дынамічны, нервовы час. А дванаццаць!.. Менавіта столькі сыноў і дачок у механізатара калгаса імя Леніна Маладзечанскага раёна Пятра ЖУКОЎСКАГА і яго жонкі Ніны. Пяць сыноў — Сяргей, Ігар, Уладзімір, Анатоль, Васіль — працуюць механізатарамі. Вучыцца ў Вілейскім вучылішчы дачка Ала — яна будзе поварам. Ходзяць у школу Алег, Дзіма, Віця, Тамара. Маленькая Волечка яшчэ дашкольніца. У Людмілы — малое дзіця, і яна знаходзіцца дома. Усю сям'ю сабраць не ўдалося, таму што старшы Анатоль працуе ў Краснадарскім краі, іншых паклікалі тэрміновыя справы тут, у калгасе. Жыве вялікая сям'я дружна, з павагай і клопатам пра кожнага.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ



**Пашырае супрацоўніцтва з замежнымі партнёрамі калектыў Віцебскага панчошна-трыкатажнага камбіната. Ён ужо другі год прадае сваю прадукцыю заходнегерманскай фірме «Вільфрыд Пост». Сёлета заключаны кантракт па абмену вопытам з народным прадпрыемствам Фейнвашэ «Бруна Фрайтаг» (ГДР). Пашыраючы міжнародныя сувязі, працоўны калектыў звярнуў сур'ёзную ўвагу на павышэнне якасці прадукцыі, яе канкурэнтаздольнасці. Плануецца таксама наладзіць выпуск вырабаў сумесна з амерыканскай фірмай «Манарх». Нядаўна прадстаўнікі гэтай фірмы пабывалі на віцебскім прадпрыемстве, азнаёміліся з вытворчасцю прадукцыі і яе асартыментам. Было дасягнута папярэдняе пагадненне на супрацоўніцтва.**

**НА ЗДЫМКУ: дырэктар камбіната Анатоль МАРДАШОЎ (справа) з прадстаўнікамі фірмы «Манарх» у адным з цэхаў прадпрыемства.**

СУМЕСНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ПОЛЬСКАЙ АКАДЭМІІ

Перспектывы супрацоўніцтва абмяркоўваліся на праведзенай нядаўна ў Мінску сустрэчы дэлегацыі Польскай акадэміі навук, узначальваемай яе прэзідэнтам Я. Кастжэўскім, з прэзідэнтам АН БССР У. Платонавым.

Кантакты беларускіх і польскіх вучоных, якія маюць даўнюю гісторыю, прыметна ажывіліся ў апошні час. З 1985 года гэтыя адносіны ўступілі ў новую фазу, калі асобныя інстытуты дзвюх акадэмій атрымалі права самастойна заключаць дагаворы аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве на аснове кааперацыі і прамых сувязей. Сёння каля трох дзесяткаў навуковых цэнтраў вядуць сумесныя даследаванні па самай разнастайнай тэматыцы.

Напрыклад, Інстытут фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР і Інстытут асноў металургіі АН ПНР шукаюць найбольш эфектыўныя спосабы апрацоўкі і прымянення каляровых металаў. Рэнтгенаструктурныя даследаванні ўзялі на сябе беларускія вучоныя, а тонкі фізіка-хімічны аналіз узораў праводзяць іх польскія калегі. Такі падзел працы эканоміць сілы і сродкі, паскарае атрыманне канчатковага выніку.

Прынята рашэнне значна расшырыць тэматыку супрацоўніцтва, прадаставіць магчымасць вучоным часцей сустракацца.

На сустрэчы прысутнічаў генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзіньскі.

ПЛЁННАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## «ЭЛЕКТРОНІКА» — «РУЛА»

Адначасова выпусцілі першыя партыі электронных секундамераў спецыялісты мінскага завода «Электроніка» і гадзіннікавай фірмы ГДР «Рула».

Новы для абедзвюх краін від прадукцыі асвоены імі ў супрацоўніцтве. Дагаворам паміж двума прадпрыемствамі прадугледжаны сумесны выпуск цэлай гамы апаратуры для спорту — ад стацыянарных секундамераў высокай дакладнасці да прыбораў-бірулек, якія фіксуюць рэжымы трэніровак.

— Супрацоўнічаючы з сацыялістычнымі краінамі, мы як бы падвойваем намаганні, каб паспяхова канкурыраваць з вядучымі электроннымі фірмамі свету,—гаворыць галоўны інжынер Валерый Цароў.—І перспектывы тут ужо нядрэнныя. Напрыклад, на зарубежным рынку зацікавіліся нашымі мікракардыяаналізатарамі. Гэты прыбор, які выдаецца хворым, можа на працягу доўгага часу сачыць за работай сэрца, а затым прадаставіць усю інфармацыю ўрачу. Другая навінка — пульсамер, які вымярае частату скарачэнняў сэрца, перарывістым гукавым сігналам задае спартсменам рытм трэніровак.

НА 3-й СПЕЦЫЯЛЬНАЙ СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН

# ВЫСТУПЛЕННЕ МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БССР А. ГУРЫНОВІЧА

У агульнай дыскусіі на 3-й спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН па раззбраенню выступіў міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч.

Ахарактарызаваўшы міжнароднае становішча, якое склалася пасля чатырох савецка-амерыканскіх сустрэч на вышэйшым узроўні, ён адзначыў, што сусветнае супольніцтва вітае інтэнсіўную работу над дагаворанасцю аб 50-працэнтным скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў СССР і ЗША, над пытаннямі падрыхтоўкі пагаднення адносна захавання Дагавора па ПРА. Сур'ёзным крокам да давер'я і далейшых дагаворанасцей з'яўляецца падпісанне савецка - амерыканскіх пагадненняў аб паведамленнях аб пусках міжкантынентальных балістычных ракет падводных лодак, аб правядзенні сумеснага эксперыменту па кантролю за ядзернымі выбухамі. Намечана расшырэнне супрацоўніцтва СССР і ЗША і ў іншых галінах.

Трэба адзначыць таксама, што набліжаецца ўзгадненне ў Вене мандата для перагавораў аб скарачэнні ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў у Еўропе. Даюць першы плён намаганні па ліквідацыі рэгіянальных канфліктаў. Заключаны дагавор аб стварэнні ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна зоны, свабоднай ад ядзернай зброі.

Задача цяперашняга этапа заключаецца ў тым, каб захаваць і эфектыўна выкарыстаць дзейнасць ужо закладзенага патэнцыялу і, супаставіўшы распрацаваныя падыходам з сённяшнімі патрабаваннямі ядзерна-касмічных рэалій, намеціць узважаную і смелую праграму канкрэтных дзеянняў на заўтра.

Спыніўшыся на прадпасылках, неабходных для далейшага руху да ўсеагульнага і поўнага раззбраення, міністр замежных спраў падкрэсліў, што канцэпцыя, у адпаведнасці з якой прадухіліць ядзерную катастрофу можна толькі з дапамогай палітыкі сілы і ядзернага запалохвання, пабудавана логікай абсурду і з пункту погляду маральнасці — амаральная. Пастаянна, штосекундна ставіць на карту жыццё ўсяго жывога на планеце, трымаць будучыню цывілізацыі заложніцай выпадку — гэта выходзіць за рамкі маралі, дастойнай чалавека.

Ёсць іншая, здаровая логіка поўнага ядзернага раззбраення на ўзаемнай і кантралюемай аснове, забяспечыць якое можна ўжо да канца гэтага стагоддзя. Сур'ёзны практычны зрух — Дагавор па РСМД — даказвае рэальнасць пастаўленай мэты. Гэты зрух стаў магчымым дзякуючы перамозе разважнага сэнсу, рэалізму, сумеснаму ўліку інтарэсаў, растучаму пранікненню элементаў новага палітычнага мыслення ў міждзяржаўныя адносіны, дзякуючы антываеннай салідарнасці грамадскасці розных краін.

Рэальнасці працэсу раззбраення патрабуюць, каб ён быў усеабдымным. Для гэтага неабходны палітычная воля і смелы падыход, заснаваны на пошуку балансу інтарэсаў. Асноватворную ролю адыгрывае тут і адмова ад «вобраза ворага» ў адносінах да іншых дзяржаў, прызнанне права за кожным народам жыць і развівацца па ўласнаму выбару, а не па прымусу звонку. У ходзе агульных спрэчак унесена нямала канкрэтных прапаноў. БССР, са свайго боку, пазітыўна адносячыся да прапаноў іншых краін, лічыць неабходным калектыўна намеціць і паказаць у заключным дакуменце шляхі дасягнення наступных мэт — забеспячэнне бяз'ядзернага і ненасільнага свету:

— стварэнне зон міру і зон, свабодных ад зброі масавага знішчэння або наступальных узбраенняў;

— вядзенне справы раззбраення такім чынам, каб садзейнічаць усеабдымнаму і справядліваму ўрэгуляванню канфліктных сітуацый;

— прадухіленне мілітарызацыі космасу пры належным кантролі і захаванні яго для даследавання і выкарыстання ў мірных мэтах, ачышчэнне калязямной прасторы ад забруджванняў, забеспячэнне бяспекі мірных касмічных палётаў;

— поўная забарона ядзерных выпрабаванняў;

— хутчэйшае заключэнне, а затым няўхільнае выкананне сапраўды глабальнай канвенцыі аб поўнай ліквідацыі хімічнай зброі, а таксама забеспячэнне найстражэйшага захавання мэт і прынцыпаў жэнеўскага пратакола 1925 года;

— пачатак працэсу скарачэння звычайных узбраенняў і ўзброеных сіл, забеспячэнне пераходу да стварэння ненаступальнай структуры ўзбраенняў і ўзброеных сіл пры паніжаным іх узроўні;

— стварэнне ўмоў, пры якіх недалучаныя і маладыя незалежныя краіны маглі б спыніць нарошчванне сваіх ваенных патэнцыялаў, пачаць іх скарачэнне да разумнай мяжы і сканцэнтраваць свае намаганні на эканамічным і сацыяльным прагрэсе;

— істотнае скарачэнне гандлю зброяй і поўная ліквідацыя «чорнага рынку» гандлю зброяй, недапушчэнне распаўсюджання найбольш разбуральных яе відаў;

— абмежаванне ваенна-марской дзейнасці і ваенна-марскіх узбраенняў, распаўсюджанне мер давер'я на акваторыі мораў і акіянаў, распрацоўка працэдур кантролю, якія дазваляюць абмежаваць ядзерную пагрозу з мора;

— скарачэнне і поўнае спыненне да 2000 года замежнай ваеннай прысутнасці на чужых тэрыторыях, уключаючы ліквідацыю замежных ваенных баз, з адпаведнымі працэдурамі кантролю, у тым ліку з боку ААН;

— забарона выкарыстання ў ваенных мэтах адкрыццяў і дасягненняў у навукова-тэхнічных галінах;

— добрасумленнае захаванне існуючых пагадненняў па абмежаванню гонкі ўзбраенняў і раззбраенню, расшырэнне кола іх удзельнікаў;

— станаўленне давер'я ў якасці неад'емнага кампанента міждзяржаўных адносін;

— інфармаванне грамадскасці ў розных краінах аб становішчы спраў у галіне раззбраення і ўлік яе думкі.

Характарызуючы цяжкасці, якія стаяць на шляху раззбраення, А. Гурыновіч спыніўся на неабходнасці дзейснага міжнароднага кантролю над працэсам абмежавання ўзбраенняў і раззбраення на зямлі, на моры і ў космасе.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## АДПАВЯДАЮЦЬ СУСВЕТНАМУ ЎЗРОЎНЮ

«Адпавядаючымі самаму сучаснаму сусветнаму ўзроўню» назваў дасягненні вучоных Інстытута механікі металапалімерных сістэм АН БССР кіраўнік навуковых даследаванняў буйной амерыканскай фірмы «Элайт сігнал карпарэйшн» Сонг Куан Ры. У саставе групы вядомых амерыканскіх вучоных ён упершыню прыехаў у Гомель, дзе адбыліся абмен інфармацыяй, абмеркаванне праблем развіцця аднаго з самых перспектыўных напрамкаў навукі — стварэння новых кампазіцыйных матэрыялаў і эфектыўных сістэм трэння. Яны ўжо шырока прымяняюцца ў машынабудаванні, авіяцыі, многіх іншых прамысловых галінах абедзвюх краін. Амерыканскія вучоныя выступілі з навуковымі дакладамі, гутарылі з савецкімі калегамі, пазнаёміліся з іх апошнімі распрацоўкамі.

— Пакуль мы дагаварыліся аб творчых кантактах, але ў перспектыве спадзяёмся развіваць іх і на камерцыйнай аснове, — заявіў прафесар Мічыганскага універсітэта Кэнет Людэма.— Такія сувязі сталі магчымымі дзякуючы новай палітычнай атмасферы, якую стварылі сустрэчы кіраўнікоў нашых краін. Тут памацнела наша перакананне ў тым, што навука павінна працаваць не на гонку ўзбраенняў, а на агульны дабрабыт народаў.

ЭКАЛОГІЯ

## НЕБЯСПЕКІ НЕ НЯСЕ

У спісе прадпрыемстваў сталіцы беларускага Палесся — Пінску папаўненне. Пачата ўзвядзенне першага ў краіне завода па выпуску ахоўна-фільтруючага нятканага матэрыялу.

Важнае значэнне такой вытворчасці для меліярацыйнага будаўніцтва вызначаецца высокай якасцю фільтраў на аснове поліпрапілену. Пабудаванаму побач з новай пляцоўкай заводу дрэнажных поліэтыленавых труб спатрэбіцца 20 працэнтаў гэтай прадукцыі, астатнюю атрымаюць іншыя арганізацыі Мінводгаса СССР.

Як лічаць спецыялісты, такія прадпрыемствы з замкнутым водаабаротным цыклам, што працуюць на прывазной сыравіне, экалагічнай небяспекі не нясуць. Французская фірма, якая ўдзельнічае ў праектаванні і пастаўцы абсталявання на новы завод, гарантуе надзейнасць ачысткі выкідаў у атмасферу. Аўтаматыка, пнеўматранспарт аблегчаць працу людзей, не забрудзяць паветра над старажытным горадам.

БССР — ЧССР

## ЭКЗАМЕН ДЛЯ ЧАРАВІКАЎ

Серыю дэманстрацый новых мадэлей сваёй прадукцыі работнікі Магілёўскай доследна-эксперыментальнай абутковай фабрыкі правялі... у дзіцячых садах горада. Маленькія манекеншчыцы, а таксама іх мамы і выхавацельніцы аказаліся самымі патрабавальнымі ў ацэнцы работы мастакоў, канструктараў, абутнікоў. Незвычайны экзамен перад дзецьмі папярэднічаў і ў многім дапамог магіляўчанам вытрымаць больш сур'ёзнае выпрабаванне—зацікавіць у супрацоўніцтве чэхаславацкую абутковую фірму «Сазаван».

На фабрыцы асвойваюцца прагрэсіўныя тэхналогіі — вытворчасць туфель і красовак метадам ліцця, выпуск дзіцячага абутку на фармаваных падэшвах якія, дарэчы, згодна з кантрактам, пачалі пастаўляць чэхаславацкія калегі.

СЯЛЯНСКІЯ КЛОПАТЫ



**У рэспубліцы пачалася масавая нарыхтоўка сена і сенажу. Першыя 450 гектараў шматгадовых траў скошаны ў калгасе «Зара камунізму» Докшыцкага раёна, што на Віцебшчыне. Для аператыўнай работы тут створаны корманарыхтоўчы атрад.**



Беларускае Палессе складае трэць тэрыторыі рэспублікі. Сёння гэта вялікая будоўля, на якой працуюць калектывы больш чым ста перасоўных механізаваных калон меліяратараў, аб'яднаныя ў дзесяць спецыялізаваных трэстаў Галоўпалессеводбуда. У гэтай зоне рэспублікі практычна няма калгаса ці саўгаса, які не меў бы меліяраваных зямель. Яны сталі тут асноўнай крыніцай умацавання эканомікі. Падлічана, што адваяваныя ў багны масівы даюць звыш 44 працэнтаў валавой прадукцыі, а прадукцыйнасць абноўленага ў выніку меліярацыі гектара ўзрасла ў 5—6 разоў.

Трасы беларускіх меліяратараў працягнуліся ў апошнія гады на поўнач, у Віцебскую вобласць, дзе таксама намечана выканаць вялікі аб'ём работ, у зону расійскага Нечарназем'я, над павышэннем урадлівасці зямель якога сёння працуюць прадстаўнікі многіх брацкіх рэспублік. Так, у ліку лепшых на Браншчыне называюць меліяратараў, якіх узначальвае беларус Васіль МІНЧЫК.

НА ЗДЫМКАХ: В. МІНЧЫК; новыя трасы меліярацыі.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.



## ДВА ГАДЫ ПАСЛЯ АВАРЫІ

# БЕЗ ПРАВА НА ЗАСПАКОЕНАСЦЬ

Лаўлю сябе на думцы: чарнобыльская вясна-86 усё больш успрымаецца як мінулае. Мы паступова звыкаемся з ёю, успамінаючы толькі з нагоды. Беларуская прэса таму пацвярджэнне. Нават журналісты, для якіх тыя падзеі таксама ў многім сталі праверкай на сталасць і грамадзянскасць пазіцыі, яўна аслабілі цікавасць да тэмы, якая яшчэ ўчора лічылася найбольш вострай.

Ці не зарана?

Напэўна, у нейкай ступені сіндром заспакоенасці натуральны. Небяспека, калі жыве побач, перастае хваляваць. Чалавек не можа жыць пастаянным адчуваннем трывогі і пытацца: ці можна ўжо ісці ў лес, купацца, лавіць рыбу або збіраць грыбы? Тым больш, што першая вастрыня сітуацыі сапраўды знята. У свой час праведзена эвакуацыя насельніцтва, узята пад кантроль радыяцыйнае становішча. Ажыццёўлены работы па дэзактывацыі. Наладжаны многаступеньчаты кантроль прадуктаў харчавання. Толькі ў Беларусі, напомню, для эвакуіраванага насельніцтва пабудавана 170 новых добраўпарадкаваных сельскіх пасёлкаў з амаль дзесяццю тысячамі кватэр у дамах сядзібнага тыпу. Пацярпеўшым ад вымушанага пераезду кампенсаваны матэрыяльныя страты.

Усё гэта так, і не варта было б лішні раз трывожыць грамадскую думку, калі б не іншае. След радыяактыўнага воблака надоўга, калі не назаўсёды, адбіўся на карце рэспублікі. Ёсць на ёй сёння такое цяжка ўспрымаемае паняцце, як зона адчужэння, куды ўжо ніколі не вернуцца ранейшыя жыхары. Застаецца зона адсялення, якую па традыцыі называюць трыццацікіламетровай, хаця яна распасціраецца месцамі да пяцідзесяці кіламетраў на поўнач ад рэактара. На перспектыву вяртання туды спачатку глядзелі з аптымізмам, але плануемыя тэрміны рээвакуацыі давялося пакуль адцягнуць. Нарэшце, адзначаны на карце рэспублікі так званыя зоны жорсткага кантролю, якія забруджаны ападкамі з доўгажывучымі радыенуклідамі цэзія-137, што трапілі ў глебу. Гэта адзінаццаць раёнаў Гомельскай і шэсць — Магілёўскай абласцей. Там жывуць людзі, вядзецца гаспадарчая дзейнасць.

Чым жа характарызуецца сітуацыя ў Беларусі праз два гады пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС? Чаму да сёння ў часткі насельніцтва не знікла радыефобія? Чаму разам з ёю ўзнікла з'ява заўчаснай заспакоенасці ў некаторых кіраўнікоў і гаспадарчых органаў, што адзначаў нядаўна ЦК Кампартыі рэспублікі? Якія праблемы застаюцца нявырашанымі?

Адназначнага адказу на гэтыя пытанні няма. Хоць меркаванні спецыялістаў супадаюць у галоўным: супакойвацца, а тым больш забываць аб здарэнні нельга. І не толькі з пазіцый глабальнай палітыкі ядзернага веку, але і з пазіцыі адказнасці за лёсы канкрэтных людзей, якіх закранула бяда і якія супрацьстаяць ёй. Зрэшты, вось гэтыя меркаванні.

**Віктар БУР'ЯК, намеснік міністра аховы здароўя Беларускай ССР.**

— Агульны вывад, што можа зрабіць медыцына пасля двух год паглыбленага назірання за людзьмі, якія трапілі на тэрыторыі Беларусі пад радыеактыўнае забруджванне, — ніякіх негатыўных вынікаў у стане здароўя насел[illegible]тва мы не назіралі. Што да[illegible]дставы для падобнага заключэння? Перш за ўсё — маштаб абследаванняў. На працягу 1987 года 98 працэнтаў гэтай катэгорыі насельніцтва прайшлі паглыбленае абследаванне, з прымяненнем найноўшых методык. Асабліва ўважліва сачылі за здароўем цяжарных жанчын і дзяцей. З 2,5 тысячы будучых маці, якія знаходзіліся там пад кантролем, 1,5 тысячы ўжо нарадзілі зусім здаровых дзяцей. Сёння завершана поўная дыспансерызацыя насельніцтва тых зон. Гэта 171 тысяча чалавек. Але ні ў першыя месяцы, ні сёння па рэспубліцы не шпіталізавана ніводнага чалавека нават з прыкметамі прамянёвага паражэння.

У сувязі з задачамі ліквідацыі вынікаў аварыі зменена структура медыцынскай службы. У Міністэрстве аховы здароўя БССР створаны аддзел радыяцыйнай медыцыны. Адкрыты спецыялізаваныя дзіцячы і дарослы дыспансеры для стацыянарнага паглыбленага абследавання. Аднак неабходнасці ствараць дадатковыя эндакрыналагічныя і гематалагічныя аддзяленні (чуткі «адкрывалі» іх ледзь ці не ў кожнай бальніцы) не было.

І ўсё ж мы былі б безадказнымі, заявіўшы, што пагрозы насельніцтву не існуе. Пэўная частка насельніцтва ў першы перыяд пасля аварыі не пазбегла дозавых нагрузак на шчытападобную залозу, якія былі створаныя «атакай» радыеактыўнага ёду-135, які жыве нядоўга. Таму адна з актуальных нашых задач — удакладненне атрыманых насельніцтвам доз і прафілактыка хвароб залозы. Работа вельмі складаная і карпатлівая, бо ў той час замеры былі далёка не дакладныя. Ігнараваць магчымасць аддаленых негатыўных вынікаў гэтага апраменьвання мы не маем права, нават калі зыходзіць з парогавай тэорыі. Тым больш ва ўмовах Беларусі, дзе існуе недахоп ёду ў вадзе, прадуктах харчавання і расліннасці. Як адаб'ецца належэнне гэтай эндэміі на новую сітуацыю?

Другая задача — вывучэнне асаблівасцей так званых малых доз, атрыманых насельніцтвам. Сённяшняе становішча са здароўем расхалоджвае частку медыкаў. Але ж навука яшчэ не адказала канчаткова на пытанне аб магчымых аддаленых выніках малых доз. Тым больш небяспечна іх спалучэнне з хімічнымі фактарамі забруджання прадуктаў харчавання. Гэта асобная праблема. Ёсць работы, якія даказваюць, што фактар радыяцыйны і фактар хімічны патэнцыруюцца, дапаўняюць адзін аднаго і ўзмацняюць шкоднае ўздзеянне на арганізм. Мы ж вельмі часта сутыкаемся з залішнім ужываннем мінеральных угнаенняў, каб панізіць радыеактыўнае забруджванне ўраджаю. Прычым робіцца гэта з парушэннем рэкамендуемых аграхімічных прыёмаў. І ўжо зусім недапушчальным лічым прымяненне ў зонах забруджання пестыцыдаў.

Апошняе — не з разраду плануемай палітыкі, а з разраду халатнасці ў адносінах да рэкамендацый медыкаў. Але такая халатнасць мяжуе са злачынствам.

**Яўгеній КАНАПЛЯ, дырэктар Інстытута радыебіялогіі АН БССР.**

— Гаворачы аб укладзе вучоных Акадэміі навук БССР у ліквідацыю вынікаў аварыі на ЧАЭС, можна выдзеліць два этапы. Першы — высвятленне радыяцыйнага становішча на тэрыторыі рэспублікі. Вынікі гэтых работ ужо выкарыстаны для прыняцця рашэнняў аб эвакуацыі насельніцтва, будаўніцтве новых населеных пунктаў, арганізацыі гаспадарчай дзейнасці ў раёнах, што пацярпелі. Напрыклад, былі прапанаваны і прыменены новыя метады дэзактывацыі з выкарыстаннем прыродных і штучных сарбентаў, створаны матэрыялы і сродкі падаўлення пылаўтварэння, спосабы утылізацыі радыеактыўных адходаў.

Другі этап — расшырэнне гэтых работ. Трэба было высветліць самыя актуальныя параметры магчымых уплываў радыяцыйнага ўздзеяння на розныя экасістэмы, жывыя арганізмы. Вывучаўся стан, размеркаванне і міграцыя радыенуклідаў і спадарожных элементаў у ландшафтах, розных тыпах глебы, вадзе, паветры, раслінным покрыве. Гэта важна для ацэнкі прагнозу паступлення радыенуклідаў у харчовыя ланцужкі, назапашвання іх у органах і тканках. Вынікам гэтых даследаванняў стала стварэнне ў рэспубліцы комплекснай ацэнкі радыяцыйнаэкалагічнага становішча і яго прагнозу на наступныя гады. Гэта своеасаблівы пакет фізікахімічных і матэматычных мадэлей паводзін радыенуклідаў, іх уплыў на біялагічныя аб'екты. На іх базе распрацавана праграма «Рызыка». Яна дазваляе даць ацэнку характару магчымага апраменьвання насельніцтва і жывых арганізмаў у залежнасці ад шчыльнасці і характару радыеактыўнага забруджвання, умоў харчавання і пражывання, узроставых і іншых фактараў.

Разам з тым нельга лічыць, што мы змаглі вырашыць ці ў многі[illegible]адках блізкія да вырашэн[illegible]ых задач, што паўсталі перад намі. Узровень развіцця навукі ў свеце, напрыклад, радыебіялогіі, аказаўся недастатковым. Каб паглыбіць даследаванні, у інстытутах А[illegible]ССР і іншых ведамствах [illegible]ылі спецыяльныя лабараторыі, створаны інстытут радыебіялогіі, адкрыты філіял Усесаюзнага інстытута сельскагаспадарчай радыялогіі.

Варта назваць унікальную па маштабах і складанасці работу па стварэнню маніторынга радыяцыйнага становішча і яго прагноз. Гэта пастаяннае сачэнне за становішчам і стварэнне адзінага матэматычнага комплексу, які ўлічвае паводзіны радыенуклідаў у розных экасістэмах і іх уплыў на біялагічныя аб'екты. Актуальная праблема — вывучэнне ўплыву малых доз іянізуючых выпраменьванняў на стан эндакрыннай, сардэчна - сасудзістай, імуннай і іншых сістэм арганізма, каб вызначыць магчымыя блізкія і аддаленыя вынікі ўздзеяння радыяцыі, а таксама выпрацаваць сродкі павышэння радыеўстойлівасці арганізма. Як вядома, ёсць некалькі пунктаў гледжання на гэтую праблему. У асноўным дыскусія ідзе аб так званым парогавым або беспарогавым дзеянні радыяцыі, а таксама аб «стымулюючым» дзеянні малых доз радыяцыі. Першыя эксперыменты пераконваюць у неабходнасці з большай асцярожнасцю ставіцца да ацэнкі дзеяння малых доз. Напэўна варта правесці старанны эканамічны аналіз мэтазгоднасці гаспадарання ў некаторых раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей, улічваючы дадатковыя затраты на бяспечнае пражыванне насельніцтва і арганізацыю вытворчай дзейнасці. Варта было б наладзіць рэгулярныя сацыялагічныя апытанні насельніцтва гэтых раёнаў для вывучэння і ўліку думкі людзей аб умовах іх пражывання, павысіць агульны ўзровень санітарна-гігіенічнай адукаванасці. Усё гэта зняло б многія псіхалагічныя праблемы.

**В. УЛАДЗІМІРАЎ.**

## ЦІ БУДЗЕ ПАД МІНСКАМ АЦЭЦ?

«АЦЭЦ» — дае напрамак не зняты яшчэ дарожны ўказальнік на 37-м кіламетры Бабруйскай шашы. «Мінская атамная» — адказваюць па тэлефоне з прыёмнай упраўлення будаўніцтва. Гэтымі чатырма літарамі пакуль пamечана і ўся дакументацыя.

І ўсё ж — Мінская атамная цеплаэлектрацэнтраль ужо не існуе. Прынята рашэнне на яе месцы пабудаваць тыпавую ЦЭЦ, якая будзе працаваць на газе.

«А» і «Б» сядзелі на трубе, «А» ўпала...» — гаворыцца ў дзіцячай загадцы. Нешта падобнае здарылася і з АЦЭЦ, з назвы якой выпадзе ўсяго адна літара. Што яна мяняе?

— Для горада амаль нічога,— гаворыць начальнік упраўлення будаўніцтва Міхаіл Шапавалаў. — Шэсць энергаблокаў будучай ЦЭЦ-5 будуць даваць амаль столькі ж цяпла, колькі планавалася на АЦЭЦ. Дарэчы, яна будзе адной з самых буйных у краіне. Не прыйдзецца «перакройваць» і трубаправод, пракладка якога была пачата. Поўнасцю будзе выкарыстана створаная намі ў перыяд падрыхтоўкі да ўзвядзення АЦЭЦ будаўнічая база — яе магутнасцей, паводле разлікаў спецыялістаў, хопіць і на абслугоўванне іншых аб'ектаў энергетыкі рэспублікі. На іх зможа працаваць завод зборнага жалезабетону, цэх, дзе намечана збіраць узбуйненыя блокі для трубаправодаў. Адзінае, што нельга будзе неяк пусціць у справу,— ужо амаль гатовыя фундаменты рэактарнага аддзялення, яшчэ двух карпусоў. Там цяпер вядуцца кансервацыйныя работы...

Катлавана пад рэактар, які ў свой час здзіўляў глыбінёй, ужо амаль не відаць. Па трубах ад земснарада сюды нагнятаецца пясок, які паступова абкладзе пастаўленыя палі. Рыхтуюць да кансервацыі яшчэ адзін катлаван, у якім ужо адліта бетоннае «дно».

Патомкам, відаць, прыйдзецца паламаць галовы, каб зразумець, што ж адбылося тут.

— Страты, вядома, адчувальныя,— згаджаецца начальнік дырэкцыі будуемай ЦЭЦ Віктар Шаманоўскі.— Калі ў грашах — то каля 15 мільёнаў рублёў. Калі ў часе — то як мінімум тры гады. Пуск АЦЭЦ прадугледжваўся ў 1989 годзе. А ЦЭЦ-5 пачне працаваць не раней 1992-га. І гэта ў вострай сітуацыі дэфіцыту цяпла ў Мінску, патрэбнасці якога пастаянна растуць. Так што гараджанам прыйдзецца некаторы час зміры́цца з гэтай акалічнасцю. бо адмова ад будаўніцтва АЦЭЦ прадыктавана і іх жаданнямі.

**У. СВЕРКУНОЎ.**



Рака Бесядзь. Фота І. КУРМАНОВІЧА.

*У БЕЛАРУСКІМ КАМІТЭЦЕ АБАРОНЫ МІРУ*

# НАРОДНАЯ ДЫПЛАМАТЫЯ

Я рэгулярна чытаю газету «Голас Радзімы». Асаблівую цікавасць у мяне, як напэўна і ў большасці савецкіх чытачоў, выклікаюць расказы пра жыццё нашых суайчыннікаў за мяжой, іх пісьмы. Вельмі радуе, што яны так цікавяцца ўсім, што адбываецца на іх Радзіме. Вось мне і захацелася расказаць ім яшчэ пра адзін малавядомы бок нашага жыцця — пра некаторыя аспекты работы Беларускага камітэта абароны міру. Тое, што мы арганізоўваем мітынгі, маршы, іншыя мерапрыемствы у абарону міру, прымаем барацьбітоў за мір з розных краін, добра вядома. Але, акрамя таго, немалаважнай задачай з'яўляецца і азнаямленне грамадзян рэспублікі з тым, як ідзе барацьба за мір у іншых краінах. Да нас прыходзіць шмат пісем з розных краін, мы робім іх агляды і публікуем у мясцовых газетах. Думаю, што і нашым замежным суайчыннікам будзе цікава прачытаць адзін з іх.

У Беларускі камітэт абароны міру нядаўна п..шло пісьмо ад Мэры Эдвардс — настаўніцы са штата ..зона. Яна ўдзельнічала ў савецка-амерыканскім маршы з Ленінграда ў Маскву і піша, што, вярнуўшыся дамоў, занялася арганізацыяй у сваім штаце масавай перапіскі амерыканцаў з савецкімі грамадзянамі. Школьныя настаўнікі першымі падтрымалі ініцыятыву таварыства «Сяброў па перапісцы». Амерыканскія школьнікі, перапісваючыся з равеснікамі за мяжой, тым самым выконва.. вучэбную праграму. Школьнікаў 5—6 класаў з ЗШ.. ..кавяць штодзённае жыццё і кола інтарэсаў савецкіх равеснікаў.

Джон Бярковіч са штата Вермант расказаў, што барацьбіты за мір у яго родным горадзе Брэтлбора выступалі за хутчэйшую ратыфікацыю Дагавора па ракетах сярэдняй і меншай дальнасці, яны пратэстуюць супраць праграмы «зорных войнаў». Джон піша: «Мы спадзяёмся, што ЗША спыняць гонку ўзбраенняў у космасе, і тады ЗША і СССР змогуць падпісаць дагавор аб 50-працэнтным скарачэнні ядзерных узбраенняў. Многія амерыканцы, у тым ліку і я, захапляемся энергіяй, шчырасцю і новымі смелымі ідэямі Генеральнага сакратара Гарбачова. Абнадзейвае яго падыход да вырашэння праблем, што стаяць перад савецкім грамадствам і на міжнароднай арэне».

У БРКАМ прыйшлі пісьмо і матэрыялы мясцовай прэсы ад квакера штата Індыяна Пола Тэрнера. Газета яго роднага горада Рычманд «Паладзіум» паведамляе, што горад-пабрацім Рычманда абласны цэнтр РСФСР Серпухаў накіроўвае сюды сваю дэлегацыю.

У жніўні мінулага года, калі Серпухаў наведала амерыканская дэлегацыя, было вырашана, што ў 1988 годзе ў Рычмандзе будзе падпісана пагадненне аб культурным абмене паміж гарадамі-пабрацімамі. «Гэта сапраўдная праграма абмену, якую падтрымліваюць нацыянальныя ўрады абедзвюх краін», — сказала прадстаўнікам прэсы Рычманда Элеанора Тэрк — старшыня камітэта па сувязях з параднёнымі гарадамі.

У газеце «Паладзіум» надрукавана інтэрв'ю інспектара школ Рычманда Рычарда Морысана. У ім ён, у прыватнасці, гаворыць аб тым, што «калі прадстаўнікі педагагічнай грамадскасці Рычманда наведалі Серпухаў, савецкія настаўнікі ўручылі ім крыштальны званок у форме яблыка. Амерыканцы, у сваю чаргу, падарылі савецкім настаўнікам бронзавы званок». Далей Морысан адзначыў, што, «нягледзячы на адрозненні, савецкая сістэма адукацыі падобна на амерыканскую больш, чым у любой іншай краіне, уключаючы Англію».

Бюлетэнь квакерскага камітэта савецка-амерыканскай дружбы, які выходзіць у Філадэльфіі (штат Пенсільванія), паведамляе, што пасля выхаду ў свет сумеснага выдання «Адзін дзень жыцця ў СССР і ЗША» рыхтуецца выпуск кнігі паэзіі амерыканскіх і савецкіх аўтараў. Рабочая назва кнігі —«Чалавечы вопыт. Новая савецкая і амерыканская літаратура». Адборам твораў з савецкага боку будзе займацца Таццяна Кудраўцава — вядомы перакладчык з англійскай мовы, член Саюза пісьменнікаў СССР, амерыканскі бок прадставіць Стэнлі Куніц — паэт, лаўрэат прэміі імя Пулітцэра.

Чытаючы пісьмы простых амерыканцаў і матэрыялы прэсы, адчуваеш вялікае жаданне народа ЗША жыць у міры з нашай краінай. Народная дыпламатыя, якая складаецца з сувязей людзей, здольна разбурыць існуючыя стэрэатыпы і садзейнічаць сапраўднаму ўзаемаразуменню.

**Сяргей ЧАРНЫШ,**
**член маладзёжнай камісіі Беларускага камітэта абароны міру.**

## АЛЯКСАНДРА ЗЯЗЮЛІНА: «ПАСПЕЛА ПАЛЮБІЦЬ ГЭТУЮ КРАІНУ»

# ВЯРТАННЕ НА ЗЯМЛЮ БАЦЬКОЎ

У АДДЗЕЛЕ віз і рэгістрацыі Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкома праходзіла незвычайная цырымонія — уручаўся савецкі пашпарт амерыканцы. Вядома, такія падзеі адбываюцца ў горадзе не кожны дзень, таму і прысутнічалі тут журналісты. Хто гэты чалавек? Чаму прыехаў сюды і вырашыў застацца? Адказ на гэтыя пытанні аказаўся вельмі простым і жыццёвым. Пазнаёміліся двое маладых людзей, пакахалі адзін аднаго і пажаніліся. Муж жыве ў Мінску, і жонка прыехала да яго. Шлюбы з замежнымі грамадзянамі цяпер не рэдкасць. Шмат падобных сем'яў жыве і ў нашым горадзе. Аднак змяненне грамадзянства — гэта такі крок, які патрабуе нейкіх асаблівых прычын ці абставін.

Калі я даведаўся пра прозвішча і імя амерыканкі — Зязюліна Аляксандра Сяргееўна, пачуў, што гаворыць яна па-руску так, быццам нарадзілася ў нашай краіне, адразу зразумеў, што для яе такі крок быў у значнай ступені прадвызначаны ўсім яе папярэднім жыццём, выхаваннем у славянскай сям'і.

Мне часта даводзілася сустракацца з нашымі суайчыннікамі, якія жывуць у іншых краінах, з іх дзецьмі і ўнукамі. І кожны раз не перастаеш здзіўляцца, наколькі моцныя і глыбокія карані, якія звязваюць іх з роднай зямлёй, колькі старання і працы прыкладваюць яны, каб перадаць дзецям родную мову, сваю любоў да Радзімы, пачуццё еднасці з ёй.

У бурныя рэвалюцыйныя гады пакінуў родную Гомельшчыну дзед Аляксандры Якаў Фёдаравіч. Яго жонка была родам з Закарпацця. Другія дзед і бабуля былі выхадцамі з-пад Кастрамы. Так у маленькім гарадку непадалёку ад Нью-Йорка ўтварыўся невялікі, але дружны славянскі клан. У доме Аляксандры ўсе гаварылі толькі па-руску, і гэтая мова стала для яе роднай з дзяцінства. У сям'і быў дастатак, была магчымасць даць дзецям адукацыю. Аляксандра скончыла універсітэт, атрымала спецыяльнасць эканаміста і матэматыка. Але і яна, і родныя хацелі, каб яе праца была неяк звязана з нашай краінай. Таму занялася яшчэ і філалогіяй і ў 1984 годзе прыехала ў Маскву для ўдасканалення сваіх ведаў па рускай мове ў інстытуце імя А. С. Пушкіна. Там і пазнаёмілася са сваім будучым мужам, якога, дарэчы, таксама завуць Аляксандрам. Пасля сканчэння вучобы працавала ў турыстычнай фірме, многа разоў прывозіла ў Савецкі Саюз турыстычныя групы. У час гэтых паездак сустракалася з Сашам. Вырашылі пажаніцца. І вось са студзеня 1987 года ў Мінску стала пражываць грамадзянка Злучаных Штатаў Амерыкі.

Пасля ўручэння савецкага пашпарта Аляксандра Зязюліна сказала:

— Сённяшні дзень я магу лічыць сваім другім днём нараджэння. Шкада, што мой дзядуля не дажыў да гэтага часу. Ён усё жыццё марыў вярнуцца на Радзіму. І вось цяпер гэтую яго мару ажыццявіла я.

Мы павіншавалі Аляксандру Сяргееўну са знамянальнай падзеяй у яе жыцці і папрасілі адказаць на некалькі пытанняў.

— Чаму вы вырашылі прыняць савецкае грамадзянства? Жыць на тэрыторыі Савецкага Саюза з мужам можна і без гэтага. Раптам вам тут нешта не спадабалася б?

— Я многа ведала аб вашай краіне з расказаў сваякоў у Амерыцы. Хоць выехалі яны адсюль даўно і тое, што памятаюць, ужо не адпавядае рэчаіснасці, але заўсёды гаварылі аб ёй з любоўю.

Я і сама ўжо паспела палюбіць гэтую краіну і даволі добра ведаю Савецкі Саюз, бачыла многія гарады і цікавілася вашым жыццём на працягу шэрагу год, сачу за тым, якія вялікія змяненні адбываюцца тут. Скажу шчыра, што я наўрад ці рашылася б на такі крок яшчэ тры гады назад. Але цяпер бачу, што савецкае грамадства становіцца намнога дэмакратычней, здымаюцца існаваўшыя раней забароны і абмежаванні, ідзе перабудова ва ўсіх галінах жыцця. Мы з Сашам верым у поспех перабудовы. І вось, паколькі я збіраюся застацца жыць назаўсёды ў Савецкім Саюзе, хачу быць непасрэдным удзельнікам гэтага знамянальнага часу перамен. Да таго ж тут у мяне глыбокія карані, з гэтай зямлёй мяне звязвае не адно пакаленне сваякоў, і я хачу быць раўнапраўнай з усімі людзьмі, якія акружаюць мяне. Вось я і звярнулася з просьбай аб прадастаўленні мне савецкага грамадзянства. І шчаслівая, што гэтая просьба была задаволена, што цяпер я магу называць сябе грамадзянкай Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

— У нас цяпер многа шлюбаў савецкіх грамадзян з іншаземцамі. І часцей бывае, што муж і жонка пакідаюць Савецкі Саюз і едуць у іншую краіну. Чым было выклікана ваша рашэнне застацца іменна тут?

— Вядома, мне было б лягчэй і зручней жыць у Злучаных Штатах. Там я вырасла, выдатна ведаю жыццё, там мая мама, сястра і іншыя сваякі. Акрамя таго, тое становішча, якога я ўжо дасягнула, лічыцца ў Амерыцы значна вышэй сярэдняга і добра забяспечана матэрыяльна. У нас былі размовы на гэту тэму, але мой муж быў катэгарычна супраць таго, каб паехаць адсюль. І я разумею яго пачуцці. Мне даводзілася назіраць, як жорстка і ўсё жыццё пакутуюць на чужыне людзі, якія пакінулі радзіму. Яны да канца сваіх дзён не могуць прыжыцца ў іншай краіне. Мне б не хацелася, каб гэтак жа пакутваў і мой муж. Ну а для мяне пераезд сюды значна лягчэйшы. Я ўжо гаварыла, што тут мае карані, і выхаванне было такім, што ваша краіна з дзяцінства ўспрымалася мною як родная. Маё непасрэднае знаёмства з ёю, знаёмства з людзьмі і ўласныя пачуцці даюць мне ўпэўненасць, што я тут прыжывуся.

— І апошняе пытанне да вас, Аляксандра Сяргееўна. Вы маеце даволі добрую магчымасць параўнаць жыццё дзвюх краін. Што вы думаеце наконт гэтага пасля паўтарагадовага знаходжання ў Савецкім Саюзе?

— Цяжка адназначна адказаць на ваша пытанне. Я ўжо сказала, што мне асабіста было б лепш жыць у ЗША. Але цяпер я сапраўды маю магчымасць паглядзець на некаторыя рэчы па-іншаму. Таму што для таго, чаго я дасягнула ў сваім жыцці, затрабаваліся намаганні не толькі мае, але і маіх бацькоў. Добрая адукацыя ў ЗША каштуе немалых грошай. Інакш я б не змагла скончыць універсітэт і заняць паўнае становішча ў грамадстве. Тут жа, у СССР, усё ацэньваецца па-іншаму і ў інстытуты прымаюць толькі па ведах і здольнасцях. Грошы не адыгрываюць ролі. Тым не менш я лічу, што ў ЗША сістэма падрыхтоўкі спецыялістаў, хоць і больш жорсткая, але і



больш эфектыўная. Там сапраўды ў кожным выпадку выходзіць спецыяліст. А ў вас бывае і так, што дзяржава траціць грошы дарэмна. Цяпер у Савецкім Саюзе адбываюцца змены ў гэтай галіне. Падрыхтоўка спецыялістаў ставіцца пад кантроль прадпрыемстваў, дзе яны будуць працаваць. Ну а ў астатнім я магу сказаць, што задаволена сваім жыццём. Наша сям'я ндрэнна забяспечана. Мой муж працуе ў дзяржпрыемстве на заводзе і добра зарабляе. Я пакуль яшчэ не працую поўнасцю, але ўжо знайшла прымяненне сваім сілам. Думаю, што вельмі хутка стану карыснай для многіх беларускіх арганізацый, якія імкнуцца наладзіць кантакты з замежнымі фірмамі.

У цэлым я ўжо асвоілася з жыццём у Савецкім Саюзе. Нават ежа, аб якой так многа гаварылі ў ЗША і пужалі мяне, аказалася прыймальнай. І праблем з прадуктамі няма. Праўда, некаторыя рэчы раздражняюць мяне час ад часу. Але я бачу, што не толькі мяне, але і ўсіх людзей, хто тут жыве. На тое, каб не было падобных з'яў, скажам, як чэргі ў магазінах, і накіравана перабудова. Я вельмі спадзяюся, што пры сённяшняй пастаноўцы пытанняў у эканамічнай і сацыяльнай сферах усе цяжкасці будуць вельмі хутка пераадолены. Перабудова, палітыка М. С. Гарбачова адкрываюць вялікія магчымасці перад савецкім народам. І я думаю, што ніхто ў свеце не зможа сказаць, што ў яго не хапае здольнасцей гэтыя магчымасці скарыстаць.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

# Scientists Study Farming Prospects on Lands Near Chernobyl

**«Harvest» and «radiation» are the «in» words arousing a good deal of mass media interest, though not as much as they did less than a couple of years ago. Can we eat crops grown on lands contaminated by radiation? If so, what should farmers grow there? What are they growing in fact?**

**Novosti correspondent Grigory Kolobov discusses some of these questions with Yevgeny Pankovets, chief of the radiological department at the Byelorussian Agro-Industrial Committee.**

QUESTION: Rumour has it that animals in the contaminated zone have mutated and that some frogs have even developed an extra pair of eyes. So is there any point in encouraging farming on lands near Chernobyl?

Answer: It's good to begin a serious discussion with a joke. Honest and truthful information from scientists and economic managers is the only way to disprove all rumours and speculations concerning the aftermath of the Chernobyl accident. Our department, which is a coordinating centre under the Directorate General for Scientific Support of Byelorussia's Agro-Industrial Committee, employs both scientists and economists on a full-time basis.

I'd dare to recall that all lands around Chernobyl stopped being used for agricultural needs immediately after the accident. But in the adjacent parts of the Ukraine and particularly in Byelorussia farming businesses are booming, though all products are thoroughly checked to prevent possible pollution.

Question: What's the situation now?

Answer: Radioactivity levels in Byelorussia are being closely monitored and thoroughly studied. It would be no exaggeration to say that there is a detailed map for every hectare of collective and state farm land. Background radiation is monitored not only by our department but also by local monitoring services of collective and state farms. We have singled out the zone that turns **out only «clean»** produce. Of course, its quality must still be under rigid control, because some local officials are beginning to indulge in complacency, and this is a dangerous sign. What we want is not only to ensure the output of unpolluted products but also to see to it that people should not work under increasing doses of radiation. So we work in two important directions.

First, we have suggested a variety of land reclamation and agro-chemical measures and insisted on sharp increases in mineral fertilizer quotas. I'll explain why. Mineral fertilisers prevent plants from absorbing radioactive isotopes from land. The higher the concentration of potassium fertilisers in cultivated land the less radioactive cesium plants take in. If there is a shortage of potassium, more cesium will be ingested.

Second, we must minimize absorption by plats of contaminated elements from the soil and their subsequent ingestion by animals and people. We attach great importance to soil liming and we are still worried about the condition of grass on Byelorussia's numerous natural pastures and meadows. So we use slaked lime to prevent their contamination. Liming creates an alkali environment that prevents plants from absorbing radio nucleids. If you pl[illegible]h a meadow and then app[illegible]rtilizer and sow grass on [illegible], the ingenstion of strontium by plants drops 10 to 20 times.

Strontium and cesium, the longest living radioactive isotopes, are our chief enemies. We must find an efficient means to purge both from nutrients circulation. By applying a package of measures we have achieved certain results. For example, sesium is absorbed splendidly in argillaceous soils and its absorption is irreversible because it finds its way into the crystal lattice and no longer poses any threat. As far as strontium is concerned, its ingestion by plats drops three to five times every five years.

Question: What safety precautions do farmers take when they work in the fields?

Answer: We provide farmers with changeable overalls and collective and individual protection means. Each farm has powerful washing machines. Tractor cabins are hermetically sealed. Clothes are sent into laundries for washing.

Question: We know that we eat milk and meat produced in the zone. What can you say about food radiation control?

Answer: No contaminated crops have come out of Byelorussia since the Chernobyl catastrophe. But things are not that easy with meat and milk. So in some districts, particularly in the south of Byelorussia, meat and dairy products are given three checks for radioactivity — in the fields, at processing enterprises and on farmers private plots and at markets. The amount of contaminated produce is negligible, because it translates into net losses for farmers. Each farm employs a health officer responsible, above all, for checking food radioactivity levels. If contaminated milk is found, it would never be mixed with unpolluted product (as has been repeatedly alleged by the Western mass media). Polluted milk is sent to a milk factory where all filth is separated. The infected milk that contains radio nucleids is then processed into butter. The filth remains in waste residue which is not processed. All factories have been fitted out with laboratories to control milk quality at all stages of procession. All dairy products are also checked for radioactivity. So the situation with milk and dairy products is [illegible]geable.

It's diff[illegible]t with meat. Wherev animals are fed with conntaminated fodder meat is contaminated as well. So animals are checked before slaughter. If polluted, they are sent to a «clean» zone and fed with «clean» fodder. Every farm has such «animal sanatoria». Animals live there as long their bodies do not get rid of radio nucleids. If found fit after repeated checkups, they are sent to the slaughter house.

The above techniques are mind-bogglingly expensive, and yet the state has to bear the costs. Our scientists have been looking for ways to cut meat production costs. All research institutions under the Agro-Industrial Committee are in one way or another involved in projects associated with Chernobyl. These include the institutes of farm radiology, experimental veterinary, soil science, meat and dairy industry, and economics. They have recommended us to sow more grain and leguminous crops which are resistant to radioactive pollution.

Our department receives many proposals on ways to alleviate the Chernobyl aftermath. Some appear quite plausible and some have been tried in practice and will undoubtedly be accepted. Others, particularly those that have not gone beyond experiment, may be unacceptable. Our department's job is to evaluate the proposals and reccomend whether they should be used or not. Some ideas are harmless but impractical and will only be a waste of time and resources if implemented.

We will continue to monitor radioactive compounds in the Chernobyl territory and work on farming methods suitable for the area. In short, we will have to provide a theoretical and practical backing of farm production in the area. Our research data and results are important not only to us. It is an experience many countries and peoples will want to learn.

(APN)

# Scailing New Heights

The development of science in Byelorussia in conjunction with the USSR's scientific complex, has proceeded in three stages.

The first stage commenced after the October revolution when the Byelorussian people were able to form their own state. At that time the first educational institutions were established and studies in the fields of geology, biology, chemistry, agriculture, engineering, national history and cultural traditions launched. Of course, it cannot be compared to what there is today, yet we should not underrate their significance as the earliest attempt to harness science for the overall development of our Republic.

The second, and the most fruitful, stage dates from the 1950s. That was when the modern scientific and technological complex of the BSSR was formed. The Republic's economy, which was almost totally destroyed during the Great Patriotic War, was restored with the help of the other fraternal Soviet republics. They not only restored what was demolished, but created essentially new industries — machine building, electronics, the machine-tool industry, radio engineering and computer technology. This gave rise to new fields of science which helped to solve urgent problems in socio-economic construction.

In those years, the organizational and material foundation was laid for mathematical schools (in the fields of algebra, algebraic geometry and differential equations) and the optical school in physics, which are now recognized internationally. Research in nuclear engineering, cybernetics, thermal physics, biology, genetics and physiology was started or continued.

The recent restructuring of the economy marks the beginning of a new period in science reorganization. By the turn of this millennium we hope to attain the best world standards in the fields of engineering and technology, and raise the quality of goods. Scientific research — in both fundamental and applied sciences — has been oriented towards man's needs.

Take such an important sphere as social ecology. This field of study has been included in the programmes of all of the Academy's research institutions. Thus, mathematicians are making a mathematical model of the genetic development of Byelorussia's plant and animal kingdom in the future. Physicists have devised instruments for monitoring and analysing the state of the air, water and soils. Ecologically safe technologies and materials are being developed. The Institute of the Rational Use of Nature will soon start functioning.

I could cite many other instances of science being used in the interests of mankind. And we plan to do more.

Vladimir PLATONOV,
President of the BSSR
Academy of Sciences



*On photo: Minsk. Surganova street.* *Photo by M. MINKOVICH.*

### UNDER THE UNESCO PROGRAMME

A group of Byelorussian specialists were awarded a diploma by the Soviet Committee for two projects of theirs for the Man and the Biosphere programme. Their research led to methods of analyzing and assessing the microclimate in housing estates, defined ways to improve the recreation zones and protect the water reservoirs and green belts of Byelorussian cities. Some proposals were also made for improving the urban environment and creating the proper conditions for people's rest and recreation.

The studies were supervised by the Byelorussian Research Institute of Urban Construction. The projects advanced by the Institute met the approval of representatives of the national committees of the socialist community countries in Budapest, Leipzig and Szczecin.

### THE FIRST PRIZE GOES TO MINSK STUDENTS

Fifth-year student Sergei Yevlampiev and third-year student Oleg Lyashkevich of the Byelorussian State Theatrical Art Institute were awarded first prize in he traditional Herb Lubalin International Student Design Competitions held in the USA.

Over 1,100 students from 32 countries took part in this competition on the theme «Why hunger? Why poverty?». The competition was sponsored by the International Typeface Corporation which issues and disseminates graphic works under licence all around the world.

The works which won awards were exhibited in New York.

## ФРАНЦЫСК СКАРЫНА: ЖЫЦЦЁ, ДАКУМЕНТЫ

# НІВОДНАГА ГОЛАСУ СУПРАЦЬ

У КОЖНАГА народа ёсць сыны, чые імёны залатымі літарамі ўпісаны ў аналы нацыянальнай гісторыі. Для беларусаў такім з'яўляецца Францыск Скарына. Палымянае слова, высакародная справа гэтага выдатнага прадстаўніка эпохі Адраджэння, вучонага-энцыклапедыста, асветніка-патрыёта, заснавальніка ўсходнеславянскага кнігадрукавання складаюць гордасць і славу беларускага народа. Велічная постаць Скарыны займае годнае месца сярод буйнейшых дзеячаў еўрапейскай культуры, імёнамі якіх ніколі не перастане ганарыцца ўдзячнае чалавецтва. Гуманістычны пафас Рэнесансу ляжыць у аснове ўсёй творчай дзейнасці Скарыны, чыё 500-годдзе з дня нараджэння рыхтуецца адзначыць культурная грамадскасць усяго свету.

На радзіме слыннага палачаніна мэтанакіраваная падрыхтоўка да скарынінскага юбілею была распачата яшчэ ў 1980 годзе, калі Камісія Акадэміі навук Беларускай ССР па вывучэнню культурна-гістарычнай спадчыны Францыска Скарыны распрацавала рэспубліканскую комплексную праграму ў галіне грамадскіх навук «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры». Праграма прадугледжвае глыбокае ўсебаковае вывучэнне жыцця і дзейнасці Скарыны, правядзенне навуковых канферэнцый і іншых мерапрыемстваў па ўвекавечанню памяці беларускага першадрукара, а таксама падрыхтоўку і выданне навуковых прац, прысвечаных яго творчай спадчыне.

На адной з прац, выкананых у адпаведнасці з планам рэспубліканскай комплекснай скарынінскай праграмы, хочацца спыніцца больш падрабязна. Прыгожая, з добрым мастацкім густам аформленая кніга «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў» нядаўна выйшла ў свет у выдавецтве «Навука і тэхніка». Яна падрыхтавана вядомым даследчыкам старажытнай беларускай літаратуры, старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР, кандыдатам філалагічных навук Віктарам Дарашкевічам.

Як вядома, дакументальных біяграфічных звестак пра Скарыну захавалася вельмі мала. Мы дакладна не ведаем ні года яго нараджэння, ні года смерці. Нямала пытанняў выклікаюць і іншыя шматлікія эпізоды жыццёвага і творчага лёсу Ф. Скарыны. Так, дакументальна не поўнасцю высветлены абставіны яго знаходжання ў Кракаве, Капенгагене, Падуі, Празе, Вільні, Вітэнбергу, Познані, Маскве. Мы да крыўднага мала ведаем пра арганізацыю друкарань, пра дзелавыя і асабістыя сувязі, пра род Скарынаў. Да сённяшняга дня вядуцца спрэчкі нават наконт таго, як правільна вымаўляць яго імя: Францыск ці Францішак. А яшчэ ж не так далёка адышлі часы, калі яго памылкова называлі Георгіем... Што ж, тым большую каштоўнасць у гэтых умовах набывае кніга В. Дарашкевіча, якая цалкам пабудавана на прынцыпе павагі да дакумента, да праверанага, навукова асэнсаванага факта.

Зборнік адкрываецца грунтоўнай аналітычнай прадмовай, дзе аўтар, у прыватнасці, адзначае, што падзвіжніцкая дзейнасць Францыска Скарыны, заснавальніка рэнесансна-нацыянальнай традыцыі ў культуры ўсходнеславянскіх народаў, з'явілася заканамерным і прагрэсіўным вынікам сінтэзу і далейшага развіцця перадавога айчыннага і сусветнага, пераважна заходнееўрапейскага вопыту. Яна была падрыхтавана ўсёй шматвяковай гісторыяй беларускага народа. Па шматграннасці сваёй натуры, вучонасці, сіле думкі, прадпрымальнасці, творчай смеласці і шырыні поглядаў Скарына быў тыпова рэнесансным, еўрапейскім і разам з тым глыбока славянскім і беларускім дзеячам. Сапраўды, як творчая асоба Скарына (выхадзец з беларускай сям'і) канчаткова сфарміраваўся ў заходнееўрапейскім культурным асяроддзі, аднак ён не страціў нацыянальнага аблічча, а ўсю энергію, талент і энцыклапедычныя веды аддаў радзіме, патрыятычнаму служэнню «посполитому люду русского языка», разумеючы пад ім усю ўсходнеславянскую супольнасць. Таму так важна зразумець гарачы патрыятызм і ў пэўнай ступені народныя карані светапогляду, што трымалі Скарыну, як магутнае дрэва на зямлі, і не далі яму адарвацца ад роднага народа. З гонарам і пачуццём уласнай годнасці зазначаў Францыск Скарына ў сваіх кнігах, што паходзіў ён «из славного града Полоцка», які ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзя быў адным з найбольш буйных эканамічных, палітычных і культурных цэнтраў Беларусі. У гэтым горадзе і закладваліся асновы светапогляду будучага беларускага вучонага, культурнага дзеяча, асветніка, пісьменніка, паэта, перакладчыка і мастака...

Ацэньваючы шырокую, шматгранную дзейнасць Скарыны, даследчык лічыць найбольш велічным яго подзвіг як усходнеславянскага першадрукара і гуманіста-асветніка.

Шмат увагі аддае даследчык раскрыццю самабытнасці мастацкага афармлення скарынінскіх выданняў, асветніцка-педагагічнай і гуманістычнай скіраванасці дзейнасці першадрукара, якая заключаецца ў выкарыстанні ім кнігадрукавання як магутнага сродку выхавання і асветы народа.

У прадмове да зборніка скарынінскіх дакументаў знайшлі сваё яркае адлюстраванне грамадска-палітычныя, філасофскія, эстэтычныя, мастацкія, перакладчыцкія погляды і прынцыпы выдатнага беларускага гуманіста, і робіцца слушная, абгрунтаваная выснова аб тым, што дзейнасць Скарыны ўвабрала ў сябе лепшыя агульнаеўрапейскія культурныя дасягненні, склала цэлую эпоху ў станаўленні беларускай і ўсходнеславянскіх культур і шмат у чым прадвызначыла вектар іх будучага развіцця. Творчасць Скарыны адыграла выдатную ролю ва ўмацаванні сувязей паміж Усходам і Захадам, паміж братнімі славянскімі і іншымі народамі Еўропы, аказала значны ўплыў на абуджэнне і фарміраванне нацыянальнай свядомасці славянскіх народаў. Сваімі кнігамі Францыск Скарына ўпершыню так магутна і адкрыта сцвердзіў дэмакратычны зварот да ўсіх слаёў народа. Іменна ён зрабіў прарыў у новую па свайму характару грамадска-літаратурную свядомасць сярод беларусаў і, прыўзняўшыся над сярэдневяковым, «каставым» мысленнем, паклаў дабратворны пачатак дэмакратызацыі ўсходнеславянскіх нацыянальных культур. Самаадданая праца Скарыны стала натхняючым прыкладам для многіх дзеячаў культуры новай пары. Багатыя гуманістычныя скарынінскія традыцыі развівалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Іван Фёдараў, Пётр Мсціславец, браты Мамонічы, Мялецій Сматрыцкі, Сімяон Полацкі...




У змест зборніка ўвайшлі дакументы пра жыццё і дзейнасць Скарыны, яго родзічаў і матэрыялы, праблематычна звязаныя з яго імем. Асноўная частка дакументаў і матэрыялаў здабыта з рэдкіх і унікальных выданняў, з айчынных і замежных архіваў.

Скарынінскія дакументы... Гэта бясцэнныя першакрыніцы для ўсіх пакаленняў даследчыкаў, гэта цікавейшыя пазнавальныя матэрыялы для «звычайнага» чытача. Маючы ў сабе жывы адэкватны адбітак даўно адышоўшых дзён і падзей, гэтыя дакументы даносяць да нас подых Гісторыі...

Выключна каштоўнымі з'яўляюцца актавыя запісы Падуанскага універсітэта ад 1512 года пра наданне Францыску Скарыне годнасці доктара медыцынскіх навук. Акрамя зместу гэтых дакументаў, звяртае на сябе ўвагу і іх стыль, які спалучае ў сабе архаізмы, канцылярызмы, паўторы, арнаментальна-дэкаратыўныя моўныя элементы, складаныя сінтаксічныя структуры. І хочацца адзначыць несумненную творчую ўдачу Віктара Дарашкевіча — перакладчыка, які здолеў сродкамі беларускай мовы перадаць асаблівасці лацінскага тэксту.

«...У пятніцу пятага лістапада, — гаворыцца ў дакуменце,—у Падуі ў храме святога Урбана а гадзіне 17-й на скліканай і ў звычайным парадку сабранай святой Калегіі слаўнейшых падуанскіх дактароў мастацтваў і медыцыны па даручэнню найдастойнейшага доктара мастацтваў і медыцыны пана Тадэя Мусаці, віцэ-прыёра вышэйназванай Калегіі, са згоды райцаў указанай Калегіі, ва ўводным слове прыёр сказаў: «Найдастойнейшыя паны дактары! Прычына склікання Вашых дастойнасцей наступная: прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны, родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма, на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філасофаў гімназіі і святой нашай Калегіі.

Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца з ласкі божай выпрабаванням у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі. Калі, Вашы дастойнасці, дазволіце, прадстаўлю яго самога. Малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін».

Пасля гэтага запрасілі магістра Францыска, і ён пакорліва і ветліва прасіў з ласкі божай дапусціць яго да выпрабаванняў па медыцыне, як было вышэй сказана выступаўшым раней панам віцэ-прыёрам. Ён абяцаў шырыць усюды славу, гонар і карысць гэтай Калегіі і кожнага з дактароў паасобку.

Пасля гэтых слоў Калегія прыступіла да абмеркавання і апытвання яго. Вышэйназваны пан віцэ-прыёр сказаў: «Паны дактары, Вы выслухалі гэтага беднага і вучонага юнака. Калі хто-небудзь хацеў бы што-небудзь сказаць, няхай устане і скажа, дапоўніць яго». І нарэшце, пасля шматлікіх прамоў і выказванняў гэтых паноў дактароў, пан віцэ-прыёр сказаў асобам ніжэй названым галасаваць такім чынам, а іменна: «Хто згаджаецца, каб гэтаму пану Францыску надаць з ласкі божай медыцынскую годнасць пры захаванні ўсіх патрабаванняў, хай кіне свой голас у урну пацвярджальную, чырвоную; хто не згаджаецца, хай кіне ў адмоўную, зялёную». І праведзенае такім чынам галасаванне не дало ніводнага голасу супраць».

Безумоўна, усе дакументы, што змешчаны ў зборніку Віктара Дарашкевіча, маюць сваю навуковую і пазнавальную вартасць, кожны з іх мае свае адметныя рысы, кожны з іх па-свойму высвечвае асаблівасці творчасці, жыцця, светапогляду, характару Скарыны, яго часу і акружэння...

Дакументальныя матэрыялы пераканаўча паказваюць, што жыццёвы шлях беларускага першадрукара не быў усыпаны лаўрамі. Пэўныя эпізоды яго біяграфіі звязаны з драматычнымі падзеямі, са складанымі перыпетыямі лёсу. Так, у лютым 1532 года Францыск Скарына быў беспадстаўна арыштаваны і пасаджаны больш як на чатыры месяцы ў пазнанскую турму. Спатрэбіліся вялікія намаганні пляменніка Рамана, дапамога віленскага каталіцкага епіскапа Яна, у якога Скарына служыў лекарам і сакратаром, каб адмяніць несправядлівы прысуд і вызваліцца з турмы. Пасля кароль і вялікі князь Жыгімонт І выдаў Францыску Скарыне дзве прывілейныя граматы ад 21-га і 25-га лістапада 1532 года, якімі кароль браў пад асабістую апеку беларускага гуманіста і вызваляў яго з-пад улады звычайнага суда. «Няхай ніхто, — падкрэсліваецца ў каралеўскай грамаце ад 25-га лістапада, — апрача нас саміх альбо спадчыннікаў нашых як у Каралеўстве, так і ў Вялікім княстве Літоўскім, на землях Прусіі і Жамойці і ў іншых уладаннях нашых не мае права прыцягваць яго да суда і судзіць, якой бы ні была важнай ці нязначнай прычына яго выкліку ў суд...

Не смейце наогул умешвацца ў яго справы, якія б ні былі яны важныя ці нязначныя, учыняць яму якое-небудзь насілле ці арыштоўваць альбо затрымоўваць яго маёмасць, альбо прымушаць прыгаданага доктара Францыска да выканання якіх-небудзь павіннасцей ці гарадскіх службаў роўна з другімі жыхарамі таго горада, які ён сабе выбера для пражывання.

І няхай ніхто з вас не адважыцца на гэта пад страхам кары...»

Вядома, сам факт з'яўлення каралеўскіх прывілейных грамат (іх тэксты поўнасцю друкуюцца ў зборніку) сведчыць пра прызнанне заслуг Скарыны, разам з тым гэта і паказчык таго, у якіх няпростых умовах даводзілася жыць і працаваць нашаму першадрукару, калі сам кароль быў вымушаны ўмешвацца ў яго лёс і бараніць яго.

В. Дарашкевіч уключыў у зборнік і найновыя дакументы, прысвечаныя Скарыне. Гэта, у прыватнасці, акт Літоўскай метрыкі за 1526 год, паводле якога Францыск Скарына выступае ў якасці сведкі пры падпісанні акта аб заснаванні парафіі, касцёла і школы ў мястэчку Вясеі Гродзенскага павета. Вытрымкі з гэтага дакумента ў зборніку перакладаюцца і публікуюцца ўпершыню.

У 1984 годзе з Польшчы былі дасланы невядомыя скарынінскія дакументы, якія былі знойдзены ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Гаворка ідзе пра дзве копіі судовых дэкрэтаў караля Жыгімонта Аўгуста ад 17-га жніўня і 15-га снежня 1552 года, дадзеных у Гданьску і Вільні, адносна апеляцыі па справе Анковіча і Тоўсціка з-за «дабра нябожчыка Францыска Скарыны». Тэксты гэтых дэкрэтаў таксама ўпершыню друкуюцца на старонках зборніка.

Каштоўнасць каралеўскіх дэкрэтаў 1552 года, на думку В. Дарашкевіча, заключаецца ў тым, што «яны разам з граматай чэшскага караля Фердынанда І ад 29 студзеня 1552 года праліваюць дадатковае святло на час смерці Скарыны. Не выпадкова, што ў трох гістарычных дакументах 1552 года гаворка ідзе пра Скарыну як нябожчыка і пра юрыдычныя клопаты асоб, зацікаўленых у атрыманні часткі спадчыны Скарыны. Яны пачалі клапаціцца пра гэта неўзабаве пасля яго смерці. Таму, на наш погляд, ёсць падстава сцвярджаць, што Скарына памёр у канцы 1551 года ці ў студзені 1552 года».

Гэта — лагічная выснова, аднак і яна патрабуе дадатковых прамых і ўскосных доказаў...

Новы зборнік дакументаў і матэрыялаў пра вялікага ўсходнеславянскага першадрукара і асветніка-гуманіста — гэта плён вялікай, карпатлівай падрыхтоўчай працы беларускага даследчыка-скарыназнаўцы Віктара Дарашкевіча — працы, якая прадугледжвае ўважлівае стаўленне да кожнай акалічнасці, кожнага слова, кожнага нюанса.

Апублікаваныя ў зборніку дакументы, іх пераклады і інтэрпрэтацыі, іншыя матэрыялы, сабраныя пад адной вокладкай і размешчаныя ў адпаведным тэматычным і храналагічным парадку, пашыраюць і ўзбагачаюць нашы веды аб жыцці і дзейнасці Францыска Скарыны. І можна не сумнявацца, што праца В. Дарашкевіча будзе з прыхільнасцю сустрэта не толькі спецыялістамі-літаратуразнаўцамі, гісторыкамі, філосафамі, славістамі, але і знойдзе жывы водгук у душы ўсіх тых, хто шануе гісторыю роднай культуры. Разам з тым нельга не адзначыць (і гэта цудоўна ўсведамляе і Віктар Дарашкевіч), што на шматлікіх фактах біяграфіі Скарыны, яго творчай дзейнасці яшчэ і сёння пакуль што стаіць пячаць загадкавасці і таямнічасці... Так што наперадзе новыя даследаванні, новыя пошукі ў архівах і кнігасховішчах нашай краіны, Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Даніі, Ватыкана... Хай жа будуць яны шчаслівыя!..

**Леанід КАЗЫРА.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

**Зборнік вершаў беларускіх паэтаў аб роднай прыродзе «Мой родны кут» выйшаў у выдавецтвах «Беларусь» і «Мастацкая літаратура» на беларускай і рускай мовах. У прадмове да яго Янка Сіпакоў піша: «Кожны павінен любіць свой край. Бо чалавек, які любіць зямлю, на якой нарадзіўся і якая ласкава называе яго сваім сынам, паважае свой край, які ўзгадаваў яго, робіцца моцны і мудры — ён не зможа тады пагардліва ставіцца да іншых краёў, іншых зямель».**

**У зборніку прадстаўлены такія вядомыя вершы, як «Бацькаўшчына» Янкі Купалы, «Возера» Максіма Багдановіча, «Лясам Беларусі» Якуба Коласа, «Люблю» Канстанцыі Буйло, а таксама паэтычныя мініяцюры сучасных аўтараў.**

**Дзякуючы цудоўным перакладам Я. Хелемскага, Н. Кісліка, І. Бурсава, І. Шклярэўскага рускамоўныя чытачы змогуць далучыцца да пранікнёных вобразаў нашай зямлі, адчуць яе сціплую прыгажосць, адметнасць і самабытнасць.**

**Арганічна ўпісваюцца ў паэтычную тканіну зборніка каляровыя фотаздымкі, на якіх краявіды беларускай зямлі ў розную пару года.**




## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# ЯК РАНЕЙ ХАТУ БУДАВАЛІ

Ой, няпростая гэта справа — пабудаваць сялянскую хату. Колькі ўсяго ведаць трэба было! І не толькі будаўнічыя хітрыкі, але і звычаі, якія звязаны з будаўніцтвам.

Вось, напрыклад, калі ставіў гаспадар новую хату недзе проста на выгане, то адразу памылку рабіў, бо трэба было найперш жыта на гэтым месцы пасеяць, інакш, лічылася, галоднае жыццё будзе ў жыхароў хаты.

Але і гэта не ўсё. Трэба было забяспечыць не толькі адносна сытае жыццё, але і дабрабыт. Таму гаспадар звычайна даваў майстрам-будаўнікам манету, якая клалася пад кут хаты. Мяркуеце, так проста пакласці? Не, каб грошы ў хаце вяліся, трэба было класці пад адпаведны кут. Агульны рэцэпт просты: змясціць манету пад кут, дзе абразы вісяць. А дзе той кут, у якім абразы вісяць? Хата ж яшчэ не пабудавана. Таму павінен гаспадар вызначыць, дзе ён павесіць абразы.

На тым справа не канчалася. Як яе, гэтую манету, класці? Проста паміж бярвеннямі? Вунь, нехта з майстроў прапануе вырубіць крыжык сякераю, другі кажа, што крыж павінен высякаецца не толькі на ніжнім бервяне, але і на верхнім, трэці ўспомніў, што медныя грошы не варта класці, лепш белыя, нехта з суседзяў раіць пакласці і чырвоныя, і белыя, каб вырашыць спрэчку, а яшчэ нехта прапануе, наогул, у кожны кут пакласці, бо чуў: недзе так робяць, ці, каб не абысціся без грошай, разбіць тэрмометр, выліць ртуць у маленькую бутэлечку, закаркаваць і пакласці ў кут «жывое срэбра», а малодшыя гаспадарскія дзеткі падказваюць: «Тата, мо лепей рубель папяровы?»

Так, у розных мясцінах рабілі па-рознаму, было, што гаспадар адзін раз пры пабудове хаты рабіў гэтак, а другі — інакш. Большасць людзей, якія жылі ў адной мясцовасці, рабіла аднолькава — такая была звычка, так прыйшло ад дзядоў. Але як бы ні зрабілі, усё роўна адбывалася першае свята пры будаўніцтве хаты — закладзіны. Паспяшай гаспадар, частуй сваіх майстроў!

Потым, глядзіш, вокны ўжо гатовы — пакласці суцэльнае бервяно, і стаіць амаль хата. Зноў свята ў майстроў і гаспадара.

Праходзіць які тыдзень, нехта з майстроў, а то і ўсе разам нечакана пачынаюць збіраць кветкі. Чаму? Надыходзіць галоўнае свята хаты. Вось ужо прыбіты букет-«кветка» да скрыжавання кроквау, і адзін з цесляроў кліча: «Гаспадар, кветка!» Зноў накрываецца святочны стол...

Думаеце, усё! Не, каля хаты яшчэ працы і працы.

Нарэшце, стаіць ужо печ, у вокнах шыбы, дах накрыты. Засяляйся і жыві, гаспадар!

Не так усё проста, трэба ведаць, як засяліцца. Перш за ўсё пускалі ката ці курыцу, бо, кажуць, любое нешчаслівае здарэнне будзе спачатку таму, хто першы пераступіў парог. А далей як у каго было прынята: у адных кідалі дробныя капейкі ў кут, у другіх ставілі на стол пасярод хаты хлеб, соль і «свячоную» ваду, у трэціх на печ клалі некалькі капеек, а ў іншых і нічога не рабілі... Зноў даставаліся абрусы, сцяліліся на сталах, бо свята прыйшло — «улазіны», кажуць месцамі, а на Палессі — «вхідчына».

Во колькі абрадаў выконвалі пры будаўніцтве хаты. Частка з іх захавалася да нашых часоў, частка ўжо знікла, але аб іх памятаюць людзі.

**І. СІНЧУК.**



**НА ЗДЫМКУ: так клалі манетку ў вёсцы Белашэвічы, што на Міншчыне.**

**Фота В. КАРБОЎСКАГА.**

# Я ЎДЗЯЧНЫ ЛЁСУ

*Словы Г. БУРАЎКІНА* *Музыка Я. ГЛЕБАВА*




**Я ўдзячны лёсу, што з усіх краёў**
**Ён выбраў для мяне навекі гэты,**
**Дзе бальшакі прастуюць між гаёў,**
**А па сцяжынках коцяцца ранеты,**
**Дзе Нарач мые сінія шаўкі**
**І п'юць з Дняпра паўдзённыя вясёлкі,**
**Дзе з салаўямі дражняцца шпакі**
**І не змаўкаюць перапёлкі.**
**Я ўдзячны лёсу, што ў сябры мне даў**
**Далёкія і блізкія дарогі**
**Да прыамурскіх сосен і застаў**
**І да вяршынь Паміра крутарогіх,**
**Да кіеўскіх пявучых вечароў**
**І прыбалтыйскіх гаркаватых ветраў,**
**Да звонкіх чар малдаўскіх ганчароў**
**І ціхай велічы Ай-Петры.**
**Я ўдзячны лёсу, што ва ўсе часы**
**Мая блакітнавокая радзіма**
**Не засланіла мне чужой красы,**
**Мяне ад свету не адгарадзіла.**
**Ты, Беларусь, не ўмела быць другой,**
**Жыла ў братэрстве і сяброў цаніла.**
**І ўсе ў краіне нашай дарагой**
**Цябе завуць сястрою мілай.**

## ВЯЧОРКІ НА НОВЫ ЛАД

Некалі ў кожнай вёсцы былі гасцінныя хаты, дзе па вечарах на вячоркі збіраліся вяскоўцы. Цяпер жыццё іншае. Але ці значыць гэта, што канчаткова забытыя старыя традыцыі? Выканком Маложынскага сельсавета Брагінскага раёна, што на Гомельшчыне, пацвердзіў: гасцінныя хаты на вёсцы не перавяліся.

Праўда, збіраюцца людзі ў вольны час не прасці-вязаць, а абмяркоўваць надзённыя пытанні. У «хаты вясковых сустрэч», акрамя суседзяў, прыходзяць работнікі выканкома сельсавета, дэпутаты, кіраўнікі калгаса «Першамайск», члены інфармацыйна-прапагандысцкіх груп райкома партыі, кіраўнікі сферы паслуг. Гутараць пра справы надзённыя, пра тое, як іх палепшыць.

А потым, вядома, і песні, і гульні, і танцы заводзяць — вячоркі на новы лад без гэтага не абыходзяцца.

## ГУМАР

*Адвакат пытаецца ў абвінавачанага:*

*— Мне трэба ведаць для арыентацыі, ці вы сапраўды вінаваты ў гэтай справе, ці не?*

*— Што вы, пане абаронца, лічыце мяне за дурня, ці што? Нашто ж я вам дзвесце злотых плаціў бы, каб не быў вінаваты?*

***

*Пан: Я вас прасіў прынесці віна бутэльку і кубак вады.*

*Слуга: Вада, паночку, ужо ў віно наліта.*

***

*Двое гультаёў спалі ў капе сена. Праходзіў міма чалавек і забраў іхнія вілы.*

*— Дагані і адбяры,— кажа адзін з гультаёў.*

*Другі адказвае:*

*— Пачакай, калі ён прыйдзе забіраць сена, мы яго схопім разам.*

***

*Касілі два касцы: бацька і сын.*

*— Ой, як мала мы выкасілі, — кажа бацька.*

*— Э-э-э, каму ж тут было касіць,— кажа сын.— Ты стары, я малады.*

*Селі яны есці і добра-такі ўмалаціілі.*

*— Ого,—здзівіўся бацька, — як многа мы з'елі.*

*— А як жа,—заўважае сын, —хіба не было каму: ты — мужчына, я — мужчына.*

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 997